Гродна
№7 (536),
5 красавіка 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ХРЫСТОС ПАМЁР, ХРЫСТОС УВАСКРОС, ХРЫСТОС ПРЫЙДЗЕ ЗНОЎ!

*“Вербная нядзеля”, Сняжана Віцецкая*

**ГЭТА ГАЛОЎНАЯ ТАЯМНІЦА НАШАЙ ВЕРЫ, ЯКУЮ ЎЗГАДВАЕМ І ПЕРАЖЫВАЕМ ПАДЧАС ВЯЛІКАГА ТЫДНЯ І НЯДЗЕЛІ ЎВАСКРАСЕННЯ ПАНА. СУЧАСНЫ СВЕТ СУМНЫ І ТРЫВОЖНЫ, ТАМУ, ПЕРШ ЗА ЎСЁ, ЯМУ ПАТРЭБНЫ ЛЮБОЎ, СУПАКОЙ І РАДАСЦЬ, ЯКІЯ ДАЎ УВАСКРОСЛЫ ХРЫСТОС. НЯХАЙ ЖА ЎРАЧЫСТАЕ “АЛЕЛЮЯ”, ЯКОЕ НЕЎЗАБАВЕ ПРАГУЧЫЦЬ ПАДЧАС ВЕЛІКОДНАЙ ЛІТУРГІІ З НАШЫХ ВУСНАЎ І Ў СЭРЦАХ, ПРЫСУТНІЧАЕ Ў КОЖНЫМ ДНІ І КОЖНЫМ ВЫМЯРЭННІ НАШАГА ЖЫЦЦЯ.**

● працяг на с. 5

**“Гэта не час Божага суда, а час выбару”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### НЯДЗЕЛЯ МУКІ ПАНА (ПАЛЬМОВАЯ)

**Мц 21, 1–11**

Калі наблізіліся да Іерусаліма і прыйшлі ў Бэтфагію да гары Аліўнай, тады Езус паслаў двух вучняў, кажучы ім: "Ідзіце ў вёску, што перад вамі. Там адразу знойдзеце прывязаную асліцу і асляня з ёю. Адвяжыце і прывядзіце да Мяне. Калі вам хто скажа што-небудзь, адкажыце, што яны патрэбны Пану; і зараз жа адашле іх". І сталася гэта, каб збылося сказанае праракам, які кажа: "Скажыце дачцы Сіёна: «Вось Кароль твой ідзе да цябе; лагодны, седзячы на асліцы і на асляняці, сыне пад'ярэмнай»". Вучні пайшлі і зрабілі так, як загадаў ім Езус. Прывялі асліцу і асляня і паклалі на іх сваё адзенне, і Ён сеў на яго. І мноства людзей слала сваё адзенне на дарозе, а іншыя зразалі галінкі з дрэваў і слалі на дарозе. А натоўпы, якія ішлі спераду і следам за Ім, усклікалі: "Гасанна Сыну Давіда! Бласлаўлёны той, хто прыходзіць у імя Пана! Гасанна на вышынях!". І калі Ён увайшоў у Іерусалім, узрушыўся ўвесь горад, і пыталіся: "Хто гэта?". А народ адказваў: "Гэта прарок Езус з Назарэта галілейскага".

### ПРЫНЯЦЬ І АДКРЫЦЬ

Падзеі Пальмовай нядзелі – гэта не толькі радасныя вокрыкі, размахванне пальмамі і супольнае ўшанаванне. Езус прыбывае ў Іерусалім не дзеля таго, каб дабіцца людскога прызнання ці прыйсці да ўлады, як тагачасныя каралі, – прыбывае як Месія, каб у святым горадзе выканаць прадказанні прарокаў і даць чалавецтву абяцанае адкупленне, прыбывае на свае крыжовыя мукі. У сэрцы можа з'явіцца дылема: прыходзіць у радасці на крыжовую смерць. Цяжка зразумець Божую логіку, якая праз смерць вядзе да жыцця, праз служэнне – да валадарання, праз прыніжэнне – да трыумфу. Аднак гэтая логіка прыносіць бласлаўлёны плён.

Напэўна, у сённяшняй сітуацыі, якую перажывае свет і чалавецтва, неабходна змяніць сваё мысленне і дзеянне. Маем вострую патрэбу ў навяртанні асабліва цяпер, калі стаім перад абліччам пандэміі каронавіруса. Трэба расчытаць гэта як знак з Неба, які дае Пан. Трагедыя, якая адбываецца на нашых вачах, прымушае паклапаціцца аб выпраўленні свайго жыцця.

Такім чынам, маем перад сабой вельмі канкрэтныя задачы. Прывітаць Хрыста, які прыбывае ў імя Пана ў наша сэрца. Зразумець і прыняць свой жыццёвы "крыжовы шлях". І нарэшце яшчэ: адкрыць брамы людскіх сэрцаў для Езуса. Няхай прыбудзе і да іх так, як сёння ў Іерусалім.

**Ці адкрыта маё сэрца на Езуса і Яго ласку?**
**Як планую прывітаць уваскрослага Пана?**

### НЯДЗЕЛЯ ЎВАСКРАСЕННЯ ПАНА

**Ян 20, 1–9**

У першы дзень тыдня Марыя Магдалена прыйшла да магілы раніцай, калі было яшчэ цёмна, і ўбачыла, што камень адсунуты ад магілы. І пабегла, і прыбыла да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: "Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго". Тады выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы. Пабеглі абодва разам. І другі вучань пабег наперадзе хутчэй за Пятра і прыбыў да магілы першы. Заглянуўшы, убачыў, што ляжаць палотны, аднак не ўвайшоў. Тады прыйшоў за ім Сымон Пётр і ўвайшоў у магілу, і ўбачыў палотны, якія там ляжалі, і хусту, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная на іншым месцы. Тады ўвайшоў і той другі вучань, што прыбег першы да магілы, і ўбачыў, і паверыў. Бо яны яшчэ не ведалі Пісання, што трэба было Яму ўваскрэснуць з мёртвых.

### УБАЧЫЦЬ І ПАВЕРЫЦЬ

Падчас першай сустрэчы з Езусам апосталы Ян і Андрэй пачулі запрашэнне: "Ідзіце і ўбачыце" (Ян 1, 39). З таго часу яны і чарговыя пакліканыя верна ішлі, сузіраючы знакі, якія чыніў іх Настаўнік, і слухаючы Яго голас. Гэта быў доўгі шлях, багаты на здзіўленне і радасць, але разам з тым на незразуменне і смутак.

Марыя Магдалена прыйшла да апосталаў Пятра і Яна і сказала, што бачыла пустую магілу. Цяпер ужо не ідуць, як пры першай сустрэчы, а бягуць, каб упэўніцца ў гэтым. Евангелле паказвае апошнюю прамую на шляху следавання за Хрыстом. Хутка смутак апосталаў пераменіцца ў радасць, бо паверылі. Адгэтуль яны стануць сведкамі ўваскрасення.

Мы таксама ад першай сустрэчы з Езусам – ад хросту – накіроўваемся за Ім дарогай веры. На прыкладзе Марыі Магдалены, Пятра і Яна хочам прыйсці да пустой магілы. Аднак гэтым не можа скончыцца наша святая. Мы таксама павінны ўбачыць і паверыць. Вера дасць сілу, каб імкнуцца да таго, што вышэй, да Хрыста.

**Ці сапраўды веру ва ўваскрасенне Езуса Хрыста?**
**Што мне дае вера і для чаго яна патрэбна?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Вялікдзень у цені эпідэміі

***У апошнія дні складваецца ўражанне, што свет застыў. Свет, які ганарыцца шматлікімі дасягненнямі, засаромеўся бяссілля супраць пандэміі каронавіруса. Здавалася, што ўсё залежыць ад нас, што маем уладу над усім навокал... Хапіла літаральна некалькіх дзён – і ўжо не ведаем, што рабіць.***

Хтосьці аднойчы сказаў, што гэта не час дрэнны, а людзі ствараюць моду эпохі. Таму якімі будзем мы, такім будзе і наш час. Недастаткова перачакаць складаны момант. Ад таго, якія мы цяпер, будзе залежаць тое, якімі станем потым. Менавіта таму гэты новы, нечаканы досвед, які закрануў увесь свет і ўсе яго сферы, з'яўляецца часам пакоры. Эпідэмія, якая праходзіць праз свет, Еўропу і нашу краіну, вучыць даверу Богу ўсіх: як вернікаў, так і няверуючых.

У нашых сэрцах і супольнасцях узнікаюць невядомыя дагэтуль страхі адносна будучыні – сваёй і сваіх блізкіх. Але Бог ніколі не адварочваецца ад нас! Ніколі не парушае запавету вернай і трывалай любові з чалавекам, хаця мы так часта абыякавыя і няверныя. У сітуацыі, у якой цяперашняе цярпенне выяўляе столькі халоднасці з боку людзей, мы заклікаdebў звярнуцца да Бога і маліць аб Яго міласэрнасці. Будзем упэўнены, што Ён выслухае нас і блаславіць дарамі любові, прабачэння і міру.

Неабходна аб'ядноўваць свае цярпенні з Мукай і Смерцю Хрыста і такім чынам, як гаворыць св. Павел, дапаўняць недахоп пакут Хрыста за Яго цела, якім ёсць Касцёл (параўн. Кал. 1, 24). У Бібліі сказана: "Збаўленне справядлівых паходзіць ад Пана, Ён цвярдыня іхняя ў час уціску" (Пс 37 (36), 39). У Хрысце Бог цалкам адкрыў нам праўду, выказаную ў малітве псалміста: "Міласэрнасць і вернасць сустрэнуцца разам, справядлівасць і спакой пацалуюцца" (Пс 85 (84), 11).

Набліжаюцца самыя важныя дні на працягу ўсяго літургічнага года: Вялікі чацвер, Вялікая пятніца, Вялікая субота... Трымаймася! Няма такога Вялікага посту, пасля якога не настаў бы Вялікдзень, такіх Песень жальбы, пасля якіх не спявалася б "Алелюя"! І гэтак жа, як мы з надзеяй чакаем велікоднай раніцы, будзем таксама спадзявацца, што прыйдзе выратаванне для свету, што нарэшце настануць спакой і бяспека.

**Дарагія Чытачы!**

**Просьма ўваскрослага Пана, Пераможцу смерці, пекла і д'ябла, даць нам ласку прасвятлення, каб у гэтай складанай сітуацыі знайшлі дарогу да Бога і да блізкіх людзей. Няхай кожнага ў такі няпросты час умацоўвае вера, асвячальная ласка, малітва і прысутнасць Бога. Жадаю, каб надыходзячыя святы, якія сёлета будуць перажывацца ў цені небяспечнай пагрозы, нягледзячы ні на што, былі мірнымі і бласлаўлёнымі!**

---



# Як каталікі мабілізуюцца ў барацьбе з каронавірусам

***Са снежня мінулага года каронавірусная інфекцыя COVID-19 распаўсюдзілася на ўвесь свет і ахапіла каля 160-ці краін. Да сёння не вынайдзены эфектыўны сродак для яе лячэння. Маштабы пандэміі пашыраюцца... Шквал негатыўных звестак паўсюль. Падасца не да месца, але ці можна з гэтай сітуацыі вынесці якіясьці станоўчыя моманты? І як многія вернікі праводзяць сябе ў выключных абставінах?***

#### ЗАКРЫЦЦЁ СВЯТЫНЬ – ЧАСОВАЯ МЕРА

З-за пандэміі каронавіруса ў многіх краінах свету аб'яўлены каранцін, дзейнічае каменданцкі час. Людзі вымушаны знаходзіцца ў сваіх дамах. Дазваляецца пакідаць кватэры толькі на некалькі гадзін, каб набыць лекі і прадукты. А як жа духоўная ежа? Касцёл наведваць нельга?!

Часова закрыты святыні ў Італіі, Іспаніі, дзе на сёння зафіксавана найбольшая колькасць заражаных каронавірусам. Для наведвальнікаў закрыты санктуарый Маці Божай Фацімскай у Партугаліі, базіліка св. Пятра ў Ватыкане, храм Гроба Гасподняга ў Ізраілі... У Польшчы дзейнічаюць "ліміты" на колькасць удзельнікаў Эўхарыстыі – да 5-ці чалавек. У сувязі з аб'яўленай пандэміяй у шматлікіх краінах рыхтуюцца праекты кшталту "Вялікдзень дома". А зараз пытанне: у такіх суровых умовах вера людзей хутчэй аслабне або, наадварот, узмацніцца?

Агульнавядома, што любая праблема актывізуе мозг чалавека. Пастаўлены ў складанае становішча, ён генерыруе ідэі ў пошуках найлепшага рашэння. Такім чынам, сёння можам назіраць, як многія вернікі не апускаюць рукі, а імкнуцца да кампрамісу з улікам сваіх інтарэсаў. У Неапалі (Італія), напрыклад, святар адпраўляе для парафіян св. Імшы... на даху касцёла! Дзякуючы мікрафону і дынамікам людзі могуць прыняць у ёй удзел, знаходзячыся на балконах сваіх дамоў. А адзін святар у ЗША натхніўся аўтакафэ, дзе можна зрабіць замову, не выходзячы з транспартнага сродка, і прапанаваў вернікам "споведзь на калёсах". Тым самым пэнітэнты захоўваюць на аўтамабілі бяспечную дыстанцыю, пад'язджаючы да спаведніка, які сядзіць у крэсле.

Што значаць зачыненыя святыні? У чалавека – бадай што, ніколі так не было – з'явілася неабходнасць (не магчымасць, а менавіта неабходнасць) звярнуцца да ўласнай святыні, якой з'яўляецца сэрца. Ці яна, увогуле, падобна на Божы дом? Ці не сорамна туды запрасіць Госпада? Калі дзверы касцёла пад замком, прагнучы вернік будзе шукаць іншых крыніц, каб напіцца. І добра, калі знойдзе іх у сабе.

У рэшце рэшт, для нечага патрэбна такое "адлучэнне" ад касцёла. Верагодна, каб адчуць сапраўдны смак звычайных рэчаў. Нядзельная св. Імша – "бо так прывык", "бо ўсе ідуць"... А паспрабуй без яе! Пазней убачым, як гэтыя абставіны паўплывалі на кожнага з нас.

#### БЕЗ РАЗЛІКУ НА МЕДАЛІ

29-гадовы ўрач Пэн Іньхуа з Кітая вырашыў адкласці шлюб, каб лячыць сотні пацыентаў, якія трапілі ў бальніцу. Хоць дата ўрачыстасці была ўжо вызначана, рэаніматолаг са спецыялізацыяй па дыхальнай недастатковасці разумеў, што з-за нарастаючай пагрозы пашырэння пандэміі ён павінен быць у іншым месцы, дзе гінуць людзі – каштоўная кожная хвіліна. На жаль, заразіўся сам. У хуткім часе памёр. На тумбе каля ложка ляжалі некалькі запрашэнняў на шлюб. Малады ўрач быў перапоўнены аптымізмам...

Неверагодныя падзеі разгортваюцца ў Італіі, дзе да канца сакавіка ад каронавіруса загінулі больш за 10 тысяч чалавек. Сярод загінулых – каля 70-ці святароў, якія да апошняга заставаліся вернымі сваёй місіі: былі сярод людзей, служылі ім у цяжкія моманты. Калі стала вядома, што каронавірусам заразіўся 72-гадовы а. Джузэпэ Берардэлі, парафіяне набылі для яго апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх. Але святар не прыняў гэты дар (хоць сапраўды меў у ім патрэбу). Перанакіраваў апарат маладшаму пацыенту, а сам у хуткім часе памёр.

Ці гэта не найлепшыя сведчанні хрысціян-герояў нашага часу? Бясстрашныя, рызыкоўныя – "Пане, даваяю Табе!". Дзякуючы такім братам і сёстрам у Хрысце свет атрымлівае ў Створцы адтэрміноўку: Яго дзеці стрымліваюць Божы гнеў.

Можам толькі здагадвацца і меркаваць, навошта чалавецтву такі балючы досвед. Дакладней, гэта будзе ясна, калі перажывём яго. Якімі выйдзем пасля журботных падзей: з апушчанай галавой альбо з высока ўзнятай?

*Ангеліна Пакачайла*

# Айцец міласэрны, а эпідэмія...

***У сувязі з распаўсюджаннем пандэміі каронавіруса многія справы адышлі на другі план і здаюцца малазначнымі. Вірус забіў больш за 35 000 чалавек у свеце, што сее страх у сэрцах людзей. Веруючы чалавек пытаецца: "Дзе ва ўсім гэтым Бог? Ці эпідэмія – гэта Божая кара? Што рабіць?".***

***Дзе Бог?***

Бог хоча, каб кожны чалавек і ўсё чалавецтва было з Ім і не аддалялася ад Яго. У блізкасці з Найвышэйшым крыецца мір, радасць і шчасце. І калі хтосьці адыходзіць ад Яго праз грахі, Бог прагне вяртання свайго любімага дзіцяці. Як дзейнічае Бог, лепш за ўсё тлумачыць добра вядомая прыпавесць Езуса пра міласэрнага айца і блуднага сына.

Айцец дапускае адыход любімага дзіцяці, бо гэта яго добраахвотны выбар. Згаджаецца на грэшныя падзенні сына, на яго цярпенне і блуканні. Аддае частку маёмасці, хаця ведае, што той выкарыстае гэтыя дары няправільна: растраціць у распусных гулянках з блудніцамі і давядзе сябе да такога стану, калі ўсклікне: "Гіну!" (параўн. Лк 15, 17). Міласэрны айцец, напэўна, мог адхіліць просьбу сына як нязгодную з законам (дзіця становіцца законным спадчыннікам толькі пасля смерці бацькі) і адмовіць яму. Мог таксама паспрабаваць любой цаной утрымаць яго пры сабе. Нават старэйшы сын не разумее айца. Абвінавачвае яго ў несправядлівасці і патаканні дрэнным учынкам брата (параўн. Лк 15, 29–30). Хіба мы не назіраем тое ж самае ў сучасным свеце?

Міласэрны айцец не рабіў нічога, каб сапсаваць жыццё сыну, які абразіў яго сваімі паводзінамі. Не ставіў на яго пасткі, не насылаў злодзеяў і нягоднікаў, каб абрабавалі, не падгаворваў блудніц, каб давялі да граху. Сын сам змарнаваў сваё жыццё і зрабіў яго нязносным для сябе. Таму сёння і мы не маем права абвінавачваць Бога, прыпісваючы Яму войны, хваробы, пакуты і эпідэміі. Чалавек сам злоўжывае сваімі здольнасцямі, што ў рэзультаце выклікае цярпенне і смерць.

Чаму міласэрны айцец згаджаецца на адыход і маральную дэградацыю сына? Ці помсціць за тое, што сын недааацаніў бацькоўскі клопат і так жорстка яго абразіў? Далейшыя падзеі супярэчаць гэтаму. Калі блудны сын "быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька ягоны і зжаліўся; і, пабегшы, кінуўся яму на шыю, і пацалаваў яго" (Лк 15, 20). Такім чынам, міласэрны айцец, які з'яўляецца вобразам Бога, не кіруецца помстай і разбуральнай нянавісцю. Ён з болем у сэрцы згаджаецца на адыход сына. Бог гаворыць пра сябе праз прарока: "Узварухнулася ўва Мне сэрца Маё і распаліўся разам жаль Мой. Полымя гневу Майго не распалю... бо Я – Бог, а не чалавек, Святы сярод цябе, таму не прыйду ў гневе" (Ос 11, 8–9).

Міласэрны айцец дапускае маральную дэградацыю і цярпенні сына толькі для таго, каб той зразумеў, што айцец сапраўды яго любіць і што знаходжанне з ім – лепшы выбар. Айцец згаджаецца на цярпенні свайго дзіцяці і на ўласныя цярпенні, каб у выніку сын пераканаўся, што дабро лепшае, чым зло, і супакоіў сваё сэрца. Так і сённяшняя цывілізацыя павінна пераканацца, што жыць у сяброўстве з Богам – найлепш для чалавека. Толькі ў гэтым святле неабходна глядзець на ўсе чалавечыя пакуты: хваробы, катаклізмы і эпідэміі. Бог, Міласэрны Айцец, з болем у сэрцы прымае людскія цярпенні, каб урэшце дачакацца вяртання сваіх любімых дзяцей, выбегчы ім насустрач і кінуцца ў абдымкі (параўн. Лк 15, 20).

Блудны сын, калі ўсклікнуў "Гіну!", прыйшоў да высновы, што айцец дапаможа яму лепш за ўсё. Мог бы выбраць іншы выхад з сітуацыі, не прыніжаючы сябе перад бацькам. Мог бы папрасіць крэдыт, каб самому нанова здабыць маёмасць. Мог пачаць жабраваць ці нават прадаць сябе ў рабства, каб пазбегнуць галоднай смерці. У рэшце рэшт, мог нават памерці ў сваёй упартасці, абвінаваціўшы ва ўсім айца. Аднак ён вырашыў вярнуцца, хоць гэта было звязана з прыніжэннем.

Адыход сённяшніх "блудных сыноў" вельмі далёкі і пераўзыходзіць усе меры. Здаецца, што некаторым падабаецца знаходзіць усё новыя і новыя спосабы абразіць Бога – Міласэрнага Айца: педафілія і разбэшчванне дзяцей, эўтаназія (дабіванне старых і пакутуючых людзей), гомасексуалізм, змена полу, гендэрная ідэалогія, ідалапаклонства... Усе гэтыя г. зв. грахі, якія наклікаюць Божую помсту, нібы паставілі перад сабой мэту непасрэдна раніць Божае сэрца. Не дзіўна, што сённяшняя "цывілізацыя смерці" можа знішчыць сябе сама.

***Ці з'яўляецца пандэмія каронавіруса Божай карай?***

Звернем увагу, што Святое Пісанне, як і Касцёл, ніколі не гаворыць пра Божую кару адарвана ад навяртання чалавека і Божай міласэрнасці. Калі казаць пра пакаранне як пра дзеянне Пана, поўнае нянавісці да чалавека, якое мае на мэце канчатковае яго знішчэнне, гэта не згаджаецца з Бібліяй і вучэннем Касцёла. Божая кара ў біблійнай мове і тэалогіі Касцёла раўназначна словам "Божы палец", "Божы дакор", "Божая перасцярога", "Божая педагогіка". Толькі ў спалучэнні з навяртаннем чалавека і Божым прабачэннем можна казаць пра "Божую кару". "Бог ёсць любоў" (1 Ян 4, 8), – сцвярджае Святое Пісанне, таму Усемагутны не ўмее і не можа кіравацца нянавісцю.

У адпаведнасці з Бібліяй, святыя Касцёла сцвярджаюць, што пад "Божыя кары" звычайна падпадаюць добрыя людзі, якія, у адпаведнасці з іх учынкамі, пакліканы да вечнага жыцця. "Каго Я люблю, тых дакараю і выхоўваю" (Ап 3, 19), – кажа Бог. Тыя ж, хто адвярнуўся ад Яго, у большасці выпадкаў ужо не караюцца ў зямным жыцці, таму што іх чакае пакаранне вечнага аддалення. "Бо няма ім цярпенняў [...] і разам з людзьмі яны ўціску не знаюць. Таму іхняя пыха, як нашыйнік, абклала іх" (параўн. Пс 73 (72), 4–6).

У вучэнні Касцёла і святых зямныя пакаранні лічацца ласкай, паколькі яны даюць магчымасць удзельнічаць у збаўчай ахвяры Хрыста, каб адпакутаваць за грахі і пазбегнуць чыстца. "Цяпер я радуюся за вас у цярпеннях і дапаўняю недахоп у маім целе пакут Хрыста за Ягонае цела, якім ёсць Касцёл" (Кал 1, 24), – напісаў св. Павел. "Пане, тут карай, тут сячы, тут бі, адно каб на вякі прабачыў", – прасіў св. Аўгусцін.

Чалавек, які верыць у любоў Бога, не баіцца выкарыстоўваць біблійныя словы, памятаючы, што за ўсім стаіць бацькоўская любоў Міласэрнага Айца, які ўсё прыводзіць да дабра, нават праз пакуты. Няма неабходнасці штучна пазбягаць выражэнняў з Бібліі, баючыся выкарыстоўваць словы "Божая кара", таму што гэта прывядзе нас у тупік. Куды больш карысна зразумець, што Біблія і Касцёл маюць на ўвазе пад такімі словамі.

У 1582–1634 гадах мелі месца аб'яўленні Маці Божай у Кіта ў Эквадоры. Гэтыя аб'яўленні, хоць і прызнаны Касцёлам, мала вядомыя. Яны датычылі таксама нас – людзей XX–XXI стагоддзяў. Візіянерка, с. Мар'яна з Кангрэгацыі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, убачыла Езуса, які паміраў, як на Галгофе. "Ля падножжа крыжа стаяла Марыя, а таксама св. Ян і Марыя Магдалена. Адчуўшы віну, Мар'яна кінулася крыжам на зямлю і ўсклікнула: «Пане, я ў гэтым вінаватая! Пакарай мяне і даруй свайму люду». На гэта Анёл-ахоўнік сказаў: «Не! Гэта не ты вінаватая. Устань, бо Бог хоча адкрыць табе вялікую таямніцу». Убачыўшы слёзы Марыі, Мар'яна спыталася: «Пані наша, ці я прычына Твайго смутку?». «Не, гэта не ты, а злачынны свет». У той момант, калі пачалася агонія Езуса, с. Мар'яна пачула голас Бога Айца, які сказаў: «Гэтая кара будзе для XX і XXI стагоддзя!». Раптам над галавой паміраючага Хрыста з'явіліся тры мячы з надпісамі: «Пакараю ерась», «Пакараю бязбожнасць», «Пакараю распуснасць» – і яна зразумела, што гэта будзе адбывацца ў XX і XXI стагоддзях. Маці Божая спыталася: «Дачка Мая, ці хацела б ты прынесці сябе ў ахвяру за людзей той эпохі?». «Так!» – адказала Мар'яна, і раптам гэтыя тры мячы з-над галавы паміраючага Хрыста ўдарылі яе ў сэрца... «У тыя часы паўсюднага спусташэння распуснасцю, – казала Маці Божая, – будуць пераважаць нячыстасць, бязбожнасць і святатацтва, а тыя, хто павінен гучна клеймаваць гэты стан, будуць маўчаць! Ведай аб тым, любімая дачка, што калі ў XX і XXI стагоддзі тваё імя будзе вядома, многія не павераць, кажучы, што такая набожнасць не падабаецца Богу. Але вялікія пакуты Маіх дачок і твае цяперашнія пакуты будуць як меладычны канцэрт пакоры і пакаяння, захаваны для Майго Найсвяцейшага Сына і для Мяне»" ("Маці Божая Шчаслівай Падзеі", Франка Адэса).

***Што ў гэтай сітуацыі рабіць? На чым засяродзіцца?***

У нас ёсць рэкамендацыі Святога Айца і біскупаў, а таксама наказы дзяржаўных улад і службы аховы здароўя, дзякуючы якім можам не дапусціць распаўсюджанне пандэміі. Трэба іх выконваць, каб не захварэць і не заразіць іншых. Кожны з нас павінен сур'ёзна ставіцца да гэтай сітуацыі.

У сувязі са складаным становішчам, вернікам неабходна засяродзіцца на сваіх адносінах з Богам. Мы ж не можам выключыць Бога з нашай барацьбы за здароўе і жыццё, не можам звесці ўсё выключна да натуральных сродкаў, якімі з'яўляюцца лекі і ежа. Не можам надаць нашай рэлігійнасці "дадатковае" ці "касметычнае" вымярэнне, ад якога ў выпадку небяспекі можна проста адмовіцца, як адмаўляюцца ад кінатэатра, дыскатэкі ці футбольнага матча.

У святле прыпавесці Езуса пра міласэрнага айца і цяперашніх падзей у свеце неабходна засяродзіцца на перайманні паставы блуднага сына, які вяртаецца да айца і падае ў яго абдымкі. Многім з нас патрэбна сапраўднае навяртанне і шчырая, а можа, нават генеральная споведзь (споведзь з усяго жыцця). Давайце зробім гэта, пакуль ёсць такая магчымасць. Пакінем непатрэбныя сваркі, дыскусіі і ўзаемныя абвінавачванні, а засяродзімся на ўзнагароджанні Бога за грахі і на малітве, просячы аб літасці да нас і аб заканчэнні аб'ўленай пандэміі.

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*



*Маці Божая Шчаслівай Падзеі*

**Святы Божа, Святы Моцны, Святы Несмяротны, змілуйся над намі!** *(тройчы)*
**Ад пажару, голаду, вайны і заразы,**
*– барані нас, Божа!*
**Ад раптоўнай і неспадзяванай смерці,**
*– сцеражы нас, Божа!*
**Каб Касцёл свой святы каталіцкі бараніць і ўзвышаць меў ласку,**
*– Цябе просім, Божа!*
**Каб Айца Святога і ўсе духоўныя станы ў набожнай еднасці захаваць меў ласку,**
*– Цябе просім, Божа!*
**Каб нас у святой службе Тваёй умацаваць меў ласку,**
*– Цябе просім, Божа!*
**Каб нас да шчырага пакаяння давесці меў ласку,**
*– Цябе просім, Божа!*
**Каб ураджай даць і захаваць яго меў ласку,**
*– Цябе просім, Божа!*
**Мы, грэшныя, Цябе, Бога, просім,**
*– выслухай нас, Божа!*
**О, Езу, Езу, Езу,**
*– змілуйся над намі!*
**О, Марыя, Панна і Маці Божая,**
*– заступіся за нас!*
**Маці Божая Шчаслівай Падзеі,**
*– маліся за нас!*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*У гэтыя дні вялікіх пакут у грамадстве прысутнічае шмат страху. Страх пажылых самотных людзей, якія знаходзяцца ў дамах для састарэлых ці шпіталях і не ведаюць, што можа здарыцца. Страх людзей без сталай працы, якія думаюць, як пракарміць сваіх дзяцей, і бачаць, як прыходзіць голад. Страх работнікаў сацыяльна важных сфер, якія дапамагаюць функцыянаваць грамадству і могуць захварэць. Страх прысуты ў кожным з нас. Кожны з нас ведае, чаго ён баіцца. Будзем маліцца да Пана, каб дапамог захаваць давер, заставацца цярплівымі і перамагчы страх.*

*Фрагмент гаміліі падчас ранішняй св. Імшы ў ватыканскім Доме св. Марты, 26.03.2020*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Ніхто не хоча хварэць. Але няўпэўненасць парушае звычайны стыль нашага жыцця і з'яўляецца прычынай трывогі. Пандэмія каронавіруса паказала, што людзі XXI стагоддзя з вельмі моцна развітай навукай і медыцынай пакуль што з'яўляюцца практычна бездапаможнымі перад гэтым выклікам. Няма адпаведнай вакцыны ад каронавіруса, і невядома, як яго лячыць. У выніку тысячы памерлых, сотні тысяч хворых і ахопленых каранцінам. Чалавек, які адрынуў Бога і заняў Яго месца, яшчэ раз спазнае, што ён не бог, а толькі слабы і ўразлівы homo sapiens. Каронавірус, які зваліўся на нас як снежны ком, і складанасць барацьбы з ім заклікаюць да паглыблення адносін з Богам. Нездарма ў выслоў'і гаворыцца, што калі трывога, то да Бога. [...] Найперш неабходна вярнуцца да малітвы, якую сучасны свет выкінуў са штодзённага жыцця. Малітва з'яўляецца нашай сілай і невычэрпным рэсурсам. Дзякуючы ёй можам нанова адкрыць айцоўства Бога і ласку быцця Яго дзецьмі. Разам з салідарнасцю з хворымі і ахопленымі каранцінам, удзячнасцю працаўнікам службы аховы здароў'я і службы парадку павінны прасіць Бога, каб у сваёй міласэрнасці і Провідзе Ён абараніў нас ад няшчасцяў, якія нясе пандэмія каронавіруса. Далей павінны імкнуцца да кардынальнай перамены жыцця, бо вірус злога духа атакуе душу чалавека. Ён, як леў, кружыць з рыкам і шукае, каго пажэрці (параўн. 1 П 5, 8). Трэба памятаць, што Бог ніколі не пакідае нас саміх. Ён заўсёды побач, таксама і цяпер, падчас гэтых нечаканых выпрабаванняў. Таму неабходна заякарыць свае сэрцы ў надзеі, якую маем у Езусе Хрысце.*

*Фрагмент прамовы падчас міжрэлігійнай малітвы аб прадухіленні пандэміі каронавіруса ў мінскім касцёле свсв. Сымона і Алены, 21.03.2020*




◆ *Святы Айцец Францішак упаўнаважыў Кангрэгацыю Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў выдаць дэкрэт з новымі інструкцыямі адносна цэлебрацыі Вялікага тыдня ў бягучым годзе. Яны прадыктаваны сітуацыяй, звязанай з пандэміяй каронавіруса. У Пальмовую нядзелю цэлебрацыя Успаміну ўваходу Пана ў Іерусалім павінна адбыцца ў сакральным будынку. Абрад абмывання ног у Вялікі чацвер падчас Імшы Вячэры Пана варта выключыць. Таксама трэба адмовіцца ад працэсіі ў канцы літургіі і пакінуць Найсвяцейшы Сакрамант у табернаклі. У гэты дзень святарам даецца выключны дазвол на цэлебрацыю св. Імшы без удзелу вернікаў. У Вялікую пятніцу адарацыя Крыжа праз пацалунак абмяжоўваецца выключна да цэлебранса. Пасхальная вігілія павінна цэлебравацца толькі ў катэдрах і парафіяльных касцёлах. Абрады, звязаныя з народнай набожнасцю, і працэсіі, якія ўзбагачаюць дні Вялікага тыдня і Пасхальнага Трыдуума, можна – у залежнасці ад ацэнкі дыяцэзіяльнага біскупа – перанесці на іншыя зручныя дні.*

◆ *Прадстаўлены 2 статыстычныя даведнікі Каталіцкага Касцёла: “Annuario Pontificio” за 2020 год і “Annuarium Statisticum Ecclesiae”, у якім апублікаваны даныя за 2018 год. З іх вынікае, што за першыя 5 гадоў пантыфікату папы Францішка (2013–2018) колькасць ахрышчаных католікаў у свеце павялічылася на 75 млн чалавек – з 1,254 млрд да 1,329 млрд. Сёння католікі складаюць крыху менш за 18% жыхароў планеты. Адносна агульнай колькасці насельніцтва іх больш за ўсё ў Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы – разам 63,7%. У Еўропе – 39,7%, у Акіяніі (разам з Аўстраліяй) – 26,3%, у Афрыцы – 19,4% і ў Азіі – 3,3%.*

◆ *Трохмерныя (3D) даследаванні даказваюць, што выява на Турынскай плашчаніцы змяшчае “прыкметы жыцця, якіх не можа быць, калі цела памерла”. Спецыяліст па пластычнай хірургіі з Універсітэта Навары доктар Бернард Хантаніла прадставіў у навуковым часопісе “Scientia et Fides” свае высновы: “Пасля смерці цела расслабляецца, у выніку чаго рот адкрываецца. У чалавека на Турынскай плашчаніцы мы гэтага не бачым – рот закрыты”. Сярод іншых прыкмет жыцця – адбітак сілуэта, тыповага для асобы, якая ўстае з гарызантальнага становішча.*

◆ *Ватыканскія музеі запрашаюць у віртуальныя туры! Прапануецца 7 маршрутаў, у якія ўваходзяць: Сікстынская капэла, Музей Пія-Клімента, Музей К’ярамонці, Брача Нова, Станцы Рафаэля, Капэла Нікаліна і Зала К’яраскуры. Іх можна здзейсніць на афіцыйным сайце. Ватыканскія музеі маюць таксама профіль у сацыяльнай сетцы Instagram, дзе дзеляцца фотаздымкамі вядомых і невядомых шэдэўраў з кароткімі апісаннямі.*

*vaticannews.va; credo.pro*

# Уваскрасенне... ці веру ў гэта?

***Калі думаю аб тым, што адбываецца вакол: пажары ў Аўстраліі, нашэсце саранчы ў Саудаўскай Аравіі, Афрыцы і Азіі, пандэмія каронавіруса, якая выйшла з Кітая і запаланяе Еўропу і ўсю зямлю, – здаецца, што наступае канец свету.***

Узгадваюцца словы Езуса аб тым, што адбудзецца, калі Ён прыйдзе ў другі раз. “Будуць знакі на сонцы, месяцы і зорках, а на зямлі – трывога народаў і замяшанне ад гулу марскога хвалявання. Людзі будуць млець ад страху і ад чакання таго, што прыйдзе на свет, бо пахіснуцца нябесныя моцы. І тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзе ісці ў воблаку з моцаю і вялікай славаю. Калі ж гэта пачне адбывацца, тады выпрастайцеся і падыміце галовы вашыя, бо набліжаецца вашае адкупленне” (Лк 21, 25–28).

Думаю, сёння кожны можа ўбачыць сябе ў гэтых словах пра людзей, якія млеюць ад страху. Але не на тым хацелася б засяродзіцца. Маю ўвагу прыцягнулі апошнія словы прыведзенага ўрыўка: “Калі ж гэта пачне адбывацца, тады выпрастайцеся і падыміце галовы вашыя, бо набліжаецца вашае адкупленне”. Уваскрослы Езус гаворыць нам, што ў хвіліны, калі ўвесь свет руйнуецца, Ён прыходзіць па нас, набліжаецца, каб забраць у дом на Небе, што падрыхтаваны для нас спрадвеку. Ужо дзеецца гэта: Езус ужо перажыў усе пакуты свету, прайшоў праз смерць і ўваскрос з мёртвых, узяў на сябе ўсё зло, каб мы маглі пайсці за Ім да Айца, у Неба, да вечнага шчасця. Ён ужо перамог усё тое, што здаецца непераможным, пераадолеў усякае цярпенне, слёзы, адзіноту, роспач і смерць, а цяпер гатовы перамагаць у нас, у нашым жыцці, у нашых цяжкасцях.

Часам, магчыма, здзіўляемся, як здарылася, што апосталы і вучаніцы Езуса пасля Яго смерці хутка забыліся, што Ён сказаў пра ўваскрасенне. Яны ўцякалі, калі Езуса схапілі, калі пакутаваў, калі паміраў. Адчайваліся і баяліся, што іх чакае той самы страшны лёс – так моцна, што нават не маглі выйсці з дома, дзе збіраліся. Калі Езус з’явіўся перад Марыяй Магдаленай, Яму давялося пагаварыць з ёй некаторы час, назваць па імені, перш чым змагла з-за заслоны слёз і адчаю ўбачыць, што Ён жывы. Калі жанчыны прыбеглі да апосталаў, каб паведаміць ім радасную вестку пра ўваскрасенне, тыя не здолелі прыняць яе і заявілі, што гэта пустая балбатня, выкліканая празмернымі эмоцыямі. Нібы зусім запамятавалі, што Езус некалькі разоў вельмі выразна і ясна сказаў, што будзе замучаны, забіты і ўваскрэсне на трэці дзень!

Але калі паглядзець на сябе ў праўдзе, то, хіба, няма чаго здзіўляцца. Бо ці ж мы паводзім сябе інакш? Адбываюцца стыхійныя бедствы, хваробы, эканамічны крызіс – і мы, як і апосталы, “забываемся”, што Езус уваскрос, што ўсё ў Яго руках, што свет знаходзіцца пад Яго кантролем і Бог сапраўды чувае над намі так моцна, што кожны валасок падлічаны на нашай галаве. Апосталы здолелі поўнасцю прыняць праўду пра ўваскрасенне толькі пасля таго, як былі адораны Святым Духам. Тады яны пазбавіліся страху і сведчылі пра Езуса аж да мучаніцкай смерці.

Мы атрымліваем Святога Духа ў сакраманце св. хросту, дадаткова ўмацоўваемся ў сакраманце хрысціянскай сталасці – канфірмацыі, адно што неяк губляемся, калі нешта ідзе не так, як задумана, калі наш свет, прыдуманы і запланаваны, як хочам, руйнуецца... Так цяжка паверыць, што Езус САПРАЎДЫ пабач і на самой справе ведае, што для нас лепш. Менавіта ў такія хвіліны Бог гаворыць: “Выпрастайцеся і падыміце галовы!”. Паўстае пытанне – як гэта зрабіць? Дзе набрацца духу? І што дакладна значыць гэтае “выпрастайцеся”?

Я думаю, што гаворка ідзе пра наша духоўнае жыццё ў гэтай няпростай для ўсіх сітуацыі. Паколькі мы, як і апосталы, забываемся аб тым, што казаў Езус пра ўваскрасенне, варта вярнуцца да Яго Слова, штодня чытаць хаця б невялікі фрагмент Евангелля, прызначанага на дадзены дзень. Хрыстос сам можа нам тлумачыць Пісанне, як вучням, якія ідуць у Эмаус, для таго, каб адкрыць іх вочы, накарміць і ўмацаваць наш дух сваім Словам.

Варта нанова адкрыць цуд Эўхарыстыі, доступу да якой мы ў многіх выпадках пазбаўлены. Прымаючы Езуса ў духоўнай Камуніі, можна засумаваць па Ім, па Яго блізкасці, можна пачаць больш жадаць сустрэчы з Ім. Гэтым дар св. Камуніі значна больш цяпер, калі не можам так проста яго прыняць.

Варта прыглядзецца да сваёй малітвы, прасіць аб Святым Духу, да чаго Езус наўпрост заахвочвае, заканчваючы гісторыю пра Айца, які дае добрыя дары ўсім сваім дзецям: “Калі ж вы, будучы дрэннымі, умееце даваць добрыя дары дзецям вашым, тым больш Айцец Нябесны дасць Святога Духа тым, хто просіць у Яго” (Лк 11, 13). Што рабіць, калі я не ведаю, як маліцца, не умею, не магу? Тады трэба прасіць Святога Духа, каб Ён у нас заклікаў Бога, каб адкрыў нашыя сэрцы на Божае слова, Божую прысутнасць у іх глыбіні. Апостал Павел гаворыць: “Таксама і Дух дапамагае ў слабасцях нашых, бо мы не ведаем, аб чым трэба маліцца, але сам Дух заступаецца за нас стагнаннямі невымоўнымі” (Рым 8, 26). Можам таксама папрасіць дапамогі ў Марыі, Маці Божай, якая з’яўляецца абранніцай Святога Духа, каб дапамагла нам адкрыцца на Яго дыханне.

Варта нанова адкрыць ружанцовую малітву, адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту, літаніі, якія заўсёды можна перажываць індывідуальна, зноў схіліцца над тэкстам Гадзінак. Маліцца дома, з сям’ёй, з дзецьмі, стварыць спецыяльнае месца для малітвы, дзе зможам разам сустракацца з Богам.

Калі прыкладзём гэтыя намаганні, каб зноў выпрастацца і адрадзіць свае адносіны з Богам, Ён зменіць наш погляд, і ўбачым, што ўсе падзеі, якія так палохалі, напаўнялі страхам, бездапаможнасцю і гневам, на самой справе сталі тым, што наблізіла нас да Бога, што дазволіла зноў убачыць Яго любоў, клопат пра нас, Яго блізкасць і пяшчоту. Абноўлены дух дасць мужнасць, каб несці Добрую Навіну далей: усім тым, хто яшчэ не ўспомніў словы Езуса пра ўваскрасенне і надалей трывае ў цемры, у роспачы, смутку і адзіноце. Таму давайце выпрастаемся і падымем галовы, бо набліжаецца наша адкупленне! Хрыстос уваскрос! Ці верыш, што Ён уваскрос для Цябе і ў Тваім жыцці?

*С. Зоя Дамброўская ISSM*



# ХРЫСТОС ПАМЁР, ХРЫСТОС УВАСКРОС, ХРЫСТОС ПРЫЙДЗЕ ЗНОЎ!

● працяг са с. 1

*Як рыхтуюцца да светлага свята Вялікадня вернікі ў Гродне? Чаму дзень радаснага напаміну пра перамогу вечнага жыцця над смерцю лічыцца найвялікшай падзеяй для хрысціян? Чаму так важна зрабіць крок насустрач Богу і звярнуцца да сваіх каранёў?*


**Вольга Вялічка**
дырэктар Гродзенскага дзіцячага хоспіса імя св. Губерта

*Падрыхтоўка да свята Вялікадня ў нашым дзіцячым хоспісе пачынаецца задоўга да таго моманту, калі ў паветры па-сапраўднаму запахне вясной. Штогод матулі цяжка хворых дзяцей прыкладваюць шмат намаганняў і творчых здольнасцей, каб стварыць цікавыя вырабы на велікодную тэматыку.*

*Напярэдадні свята мы звычайна ладзім кірмашы на буйных прадпрыемствах горада, дзе выстаўляем працы нашых падапечных і іх бацькоў. Кожны ахвотны можа набыць унікальныя і непаўторныя сувеніры, зробленыя ўручную, узамен на ахвяраванне на карысць хворых дзяцей. Хачу адзначыць, што перад важнымі хрысціянскімі святамі, такімі як Раство ці Вялікдзень, людзі спяшаюцца рабіць дабро, больш актыўна ўключаюцца ў дабрачыннасць і ахвотна набываюць нашы вырабы.*

*У гэтым годзе эпідэміялагічная сітуацыя ў свеце ўносіць карэктывы ў перадвелікодную падрыхтоўку не на нашу карысць. Хутчэй за ўсё, давядзецца адмовіцца ад таго фармату кірмашоў, да якіх мы ўсе прызвычаіліся. Зараз у хоспісе арганізавана свайго роду выстава велікодных прац, і людзі, якія праходзяць міма, могуць да нас зайсці, выбраць нешта для сябе і, пакінуўшы ахвяраванне, стаць уладальнікам непаўторнай рэчы, якую не купіш ні ў адной краме свету. Вырučаныя сродкі будуць выдаткаваны на аздараўленне цяжка хворых дзяцей ля мора.*

*Мне вельмі прыемна, што ў хоспісе ўтварылася мікрасупольнасць, дзе ўсе дапамагаюць адзін аднаму і ў радасную, і ў цяжкую хвіліну – штодня. Звычайна перад Вялікаднем, яшчэ ў часе посту, бацькі прыносяць посныя стравы, частуюць адзін аднаго, абменьваюцца рэцэптамі, прымаюць удзел у духоўных сустрэчах, на якія запрашаем святароў розных канфесій. А калі наступае святочны перыяд, адорваюць дзяцей і адзін аднаго падарункамі, частуюць кулічамі, шчыра дзеляцца радасцю, не шкадуючы сваіх эмоцый.*

*Калі ж казаць пра мае сямейныя велікодныя звычаі, то яны, з большага, будуць падобны на тыя, што практыкуюцца многімі, паколькі я вырасла ў класічнай хрысціянскай сям'і. Памятаю яшчэ з дзіцячых гадоў, што хатнія прытрымліваліся посту, абавязкова наведвалі святочнае набажэнства, а Вялікдзень заўсёды адзначаўся ў шырокім коле родных і блізкіх. Тое традыцыйнае разуменне свята, яго сімволіку, знакавасць і адметнасць, што заклалі ўва мне з дзяцінства, стараюся перадаць сваім дзецям.*

*У нашым доме нязменна вось ужо колькі гадоў фарбуем яйкі выключна ў чырвоны колер у цыбульным лупінні. Абавязкова пячэм булкі, бо не магу ўявіць сабе свята з пірагамі, купленымі ў супермаркеце. Стол засцілаем саматканым абрусам, які мне дастаўся ад прапрабабулі. Увогуле, стараемся рыхтавацца да свята без мітусні, размерана. Наводзім парадкі ў хаце і ў душы. І кожны год, нібыта ўпершыню, з вялікай надзеяй на радаснае і добрае чакаем светлага дня Вялікадня.*


**С. Францішка Фядотава CSSH**
парафія Святога Духа ў Гродне

*Дзякаваць Богу, у нашай парафіі шмат вернікаў, якія ў час Вялікага посту і на Вялікдзень прыходзяць у капліцу не толькі дзеля супольнай малітвы, а каб з вялікім энтузіязмам і задавальненнем дапамагчы ў падрыхтоўцы да свята. Гэта, можна сказаць, такі своеасаблівы актыў – людзі, якія з радасцю гатовы прысвяціць свой час, таленты і ўменні на карысць іншых.*

*У нас існуе прыгожая традыцыя, калі перад Пальмовай нядзеляй разам аздабляем вербы. Хтосьці задоўга да святочнага дня сее і сушыць сухацветы, каласкі, хтосьці скручвае кветкі з паперы, іншыя нарыхтоўваюць вярбовыя галінкі. Затым мы ўсе разам бярэмся за працу. З вялікай ахвярнасцю і адказнасцю стараемся, каб на выхадзе атрымаліся прыгожыя вырабы, выканаsuccessfully з душой. У Пальмовую нядзелю вербачкі будуць прададзены, а вырučаныя сродкі – накіраваны на будову касцёла.*

*Таксама стараемся стварыць святочны настрой у капліцы праз асаблівае ўбранне і дэкарацыі, нейкае тэатральнае прадстаўленне ці выступленне з удзелам дзяцей, тэматычную выставу вырабаў ручной працы ці малюнкаў. Я ўдзячна пераканана, што нельга на святы скнарнічаць. Але тут не ідзе гаворка аб нейкім баляванні з шыкам, а хутчэй аб стварэнні адпаведнай атмасферы. Вельмі важна паказаць, што гэта не свята манахінь, што працуюць у парафіі, не свята пробашча, а наша агульнае свята. Важна абудзіць у парафіян жаданне прымаць удзел у яго падрыхтоўцы.*

*З года ў год я з'яўляюся адказнай за святочныя дэкарацыі ў капліцы, мне гэта вельмі падабаецца. Да таго ж, атрымліваецца няблага: праца даецца з лёгкасцю, ідэі хапае. Зразумела, што на Вялікдзень заўсёды галоўны акцэнт робіцца на Гробе Панскім. Але і тут ёсць магчымасць для творчых эксперыментаў, каб не паўтарацца. Адзінае, што застаецца нязменным – цішыня, Езус і мноства кветак. Калі я працавала ў Расіі, мы штогод закуплялі каля сотні вазонаў з азаліямі для велікодных дэкарацый. У цяперашніх рэаліях такі размах, вядома, немагчымы. Але я ўсё роўна стараюся прыўнесці нейкую навізну, каб чалавек, які прыйшоў у святыню, атрымаў яшчэ і эстэтычнае задавальненне.*


**Сняжана Віцецкая**
мастачка

*Першыя асацыяцыі, якія ўзнікаюць у мяне пры слове Вялікдзень, – гэта цёплае, светлае, сямейнае свята, калі ўсе родныя збіраюцца разам; гэта вясна, адраджэнне, перадусім, унутранае. Пакуль былі жывыя бабулі і дзядулі, мы заўсёды ездзілі ў вёску і там сустракалі галоўныя хрысціянскія святы. І калі ў дзяцінстве больш яркім, эфектным і поўным уражанняў здавалася Раство, то з узростам пачынаеш усведамляць асаблівую важнасць Вялікадня.*

*У мяне з урачыстасцю Уваскрасення Пана звязаны ўнутраныя, асабістыя перажыванні. І гэта вельмі інтымны досвед, які нават складана апісаць словамі. Чалавек увесь час імкнецца да поўнай дасканаласці ў розных сферах свайго жыцця. Часам нават можа здавацца, што недзе дасягнуў вышынь. А потым ён глядзіць на ўсё з боку і разумее, які вялікі шлях яшчэ чакае наперадзе…*

*З велікоднай тэматыкай звязаны дзве мае працы. Першая – "Вербная нядзеля", дзе адлюстравала дзяўчынку з традыцыйнай гродзенскай вярбой у строі, які адсылае да нашай беларускай нацыянальнасці. Гэтае белакурае дзяўчо атаясамлівае чыстае, дзіцячае адчуванне свята. Другая праца – "Езус Міласэрны". Я вельмі шчаслівая, што ўдалося яе напісаць. Не магу ўзгадаць ніводнай іншай карціны, якая б стваралася з такімі моцнымі эмоцыямі і перажываннямі.*

*Аднойчы я разбірала свае старыя эскізы і знайшла партрэт Хрыста. Тады падумала, што нядрэнна было б нешта падобнае напісаць, але адкінула гэтую думку, бо, як бы меркантыльна гэта не гучала, кожны мастак імкнецца прадаць свае творы, а такога роду палотны не вельмі запатрабаваныя. Але потым абставіны скласіся такім чынам, што я ўсё-такі ўзялася за працу.*

*Пісала гэтую карціну з вялікім страхам. Часам здавалася, што зараз нехта вырве яе з маіх рук. Часам вельмі моцна перажывала і задумвалася над тым, ці наогул маю права, ці дастаткова здольная для таго, каб намаляваць Божае аблічча. Нягледзячы на тое, што праца называецца "Езус Міласэрны", яна, на маю думку, выдатна адлюстроўвае велікодны настрой. Гэта вобраз уваскрослага Хрыста – пасля апошняй вячэры, пасля Галгофы, пасля распяцця. Ён з характэрнымі ранамі на далонях, з добрым, любячым выразам твару, у якім яскрава бачна Божая любоў да ўсіх людзей – таямнічая і недасягальная.*


**Марыя Углік**
верніца з парафіі св. Юзафа ў Гродне

*Вялікдзень – адно з найбольш важных свят як для ўсёй маёй сям'і, так і для мяне асабіста. Памятаю, як яшчэ ў дзяцінстве бацькі будзілі ноччу і казалі, што трэба хуценька збірацца і ісці ў касцёл, бо адбыўся цуд – Езус уваскрос. І я заўсёды з трапяткім пачуццём узгадваю той момант, калі стаіш нязрушна на Рэзурэкцыі і адчуваеш, што здзяйсняецца нешта асаблівае, хоць да канца яшчэ не ўсведамляеш усяго, што адбываецца.*

*Цяпер я ўжо пасталела. Прыйшло разуменне велічы тых падзей, якія мелі месца 2 тысячы гадоў таму, пагэтаму з яшчэ большым хваляваннем чакаю і перажываю радаснае свята Вялікадня. А як інакш? Езус – мой Цар, які аддаў сваё жыццё за мяне – слабога і грэшнага чалавека. Ён не стамляецца прабачаць зноў і зноў. І ўжо некалькі гадоў запар я стараюся прысутнічаць на ўсяночнай адарацыі, каб ад шчырага сэрца дзякаваць Хрысту за Яго бязмежны і бескарыслівы давер, за Яго пастаянную прысутнасць. Адчуваю, што самае галоўнае ў гэты дзень – быць там, побач з магілай, у якой ужо няма Збаўцы, і пачуць радаснае: "Вясёлы дзень для нас настаў, якога свет увесь жадаў: сёння Хрыстос з гроба ўстаў. Алелюя, Алелюя, Алелюя!".*

Кінга Красіцкая

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CATHOLIC.BY

### Юбілей Філарэта

**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч павіншаваў Ганаровага Патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі Мітрапаліта Філарэта з 85-годдзем. Старшыня ККББ прысутнічаў на святочнай літургіі ў хатнім храме Беларускага Экзархата і на прыёме ў гонар юбіляра.**

У віншавальным слове арцыбіскуп адзначыў: "Ваша настойлівасць, дыпламатычныя здольнасці, уменне распазнаваць знакі часу і хутка адказваць на іх прынеслі свой плён. Ваша адкрытасць для дыялогу дапамагла таксама і Каталіцкаму Касцёлу ў яго адраджэнні ў сучаснай Беларусі". Напрыканцы іерарх падзякаваў Мітрапаліту Філарэту і пажадаў яму Божага бласлаўлення.

GOŚĆ NIEDZIELNY

### Хатнія аборты?

**Урад Вялікабрытаніі дазволіў жанчынам здзяйсняць фармакалагічны аборт дома.**

Цяпер жанчыны і дзяўчаты змогуць прымаць таблеткі для ранняга перапынення цяжарнасці самастойна. У той жа час урачы могуць прапісаць іх на адлегласці – праз відэазванок, тэлефонную канферэнцыю ці іншыя электронныя сродкі.

Такі крок асудзілі ў асяроддзі абаронцаў жыцця, прыгадваючы, што гэта ставіць пад пагрозу здароўе і жыццё многіх жанчын, робячы магчымым амаль неабмежаванае ўжыванне сур'ёзнага сродка, які знішчае зачатае жыццё. На іх думку, прыхільнікі абортаў выкарыстоўваюць час крызісу, калі народ змагаецца з пандэміяй каронавіруса, каб здзейсніць ідэалагічныя змены.

wiara.pl

### "Дзённік" на YouTube

**Кангрэгацыя Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці зрабіла даступнай радыёадаптацыю "Дзённіка" св. Фаўстыны Кавальскай. 119 частак працягласцю 8-10 хвілін можна знайсці на профілі "Фаўстына" ў сэрвісе YouTube.**

Першапачаткова запіс быў падрыхтаваны для радыёстанцый у 1990-я гады. З гады таму ў яго далі нехапаючыя эпізоды.

"Дзённік" с. Фаўстыны Кавальскай належыць да жамчужын містычнай літаратуры. Манахіня пісала яго ў 1934–1938 гадах.




## Як перамагчы страх смерці?

*Смерць не з'яўляецца нечым натуральным для чалавека. Мы былі створаны Богам для вечнага жыцця, і гэтае прагненне застаецца ў глыбіні нашай сутнасці. Аднак "як праз аднаго чалавека грэх увайшоў у свет, і праз грэх – смерць, гэтак і смерць перайшла на ўсіх людзей, бо ўсе людзі зграшылі" (Рым 5, 12), "бо заплата за грэх – смерць" (Рым 6, 23).*

*Мы знаходзімся ў стане, калі душа перажывае сваю несмяротнасць, але грэх стаў прычынай смяротнасці цела. Цалкам заканамерна: людская сутнасць супраціўляецца такому парадку рэчаў. Смерць "непрыродная", калі мець на ўвазе, якімі мы былі створаны Богам. "Хоць чалавек і меў смяротную прыроду, Бог прызначыў яму не паміраць. Такім чынам, смерць супярэчыла задуме Бога Стварыцеля і ўвайшла ў свет як наступства граху" (ККК 1008).*

*Разам з тым, смерць цяпер з'яўляецца непазбежным і неабходным элементам нашага збаўлення. Гэта новы аспект чалавечага існавання ў свеце дзякуючы ўцелаўленню і смерці Божага Сына Езуса Хрыста. "Дзякуючы Хрысту хрысціянская смерць набыла станоўчы сэнс" (ККК 1010). Без Хрыста смерць была страшнай з'явай, поўнай адчаю і бессэнсоўнай. Як пісаў у часы Старога Запавету Эклезіяст, "доля ў сыноў чалавечых і доля ў жывёлін – доля адна; як паміраюць тыя, так паміраюць і гэтыя, і адно дыханне ва ўсіх, і няма ў чалавека над жывёлінаю перавагі, бо ўсё – марнасць!" (Экл 3, 19). Але цяпер наша становішча змянілася: "Бо для мяне жыццё – гэта Хрыстос, і смерць – здабытак" (Флп 1, 21).*

*У смерці Бог заклікае чалавека да сябе. Таму хрысціянін можа адчуваць у адносінах да смерці такое жаданне, якое адчуваў апостал Павел: "Жадаю адысці і быць з Хрыстом, бо гэта нашмат лепшае" (Флп 1, 23).*

*Смерць палохае чалавека сваёй невядомасцю, нявызначанасцю. Але цяпер у яе ёсць надзея, ёсць святло. Да гэтага святла мы ідзём і дзеля яго мы знаходзімся тут, на зямлі. Жывём у свеце, будучы створаныя не для гэтага свету. Смерць з'яўляецца дарам, які вызваляе нас ад кайданаў, у якія закаваў грэх. Смерць – канец бегу, канец змагання: "Кожны, хто ідзе ў спаборніцтва, усяго сябе адмаўляе; яны – каб атрымаць вянец зніштальны, а мы – незнішчальны" (1 Кар 9, 25).*

*Тое, што дазваляе пазбавіцца ад страху перад смерцю, – гэта вера і любоў да Бога. "У любові няма страху, бо дасканалая любоў вон выганяе страх, бо страх мае ў сабе кару. Хто баіцца, той не дасканалы ў любові" (1 Ян 4, 18).*

*А. Зміцер Чарнель CSsR*
***Паводле catholicnews.by***

*З Богам праз штодзённасць*

# Трыванне ў надзеі са св. Янам ад Крыжа



Св. Ян ад Крыжа – духоўны настаўнік, містык, доктар Касцёла – палымяны сведка Божага ўплыву на чалавечае жыццё. Як паэт ён карыстаўся метафарамі жаніха і нявесты, каб адкрыць людзям, кім ёсць Бог. А. Ен Мэцью OCD, сабрат св. Яна, напісаў аб ім кнігу "The Impact of God", што даслоўна перакладаецца як "уплыў Бога". З усяго багацця тэм, якія закранае аўтар, для гэтага артыкула я выбрала тэму надзеі.

Добры і шчодры Бог такі цудоўны, адзначае а. Мэцью, пакуль нам усё ўдаецца. А калі прыходзяць цяжкасці і апускаецца цемра? Калі давер знікае бясследна, і няма сіл нават паспрабаваць яго вярнуць? У рэальнасці мы вымушаны жыць з цэлым наборам абмежаванняў, а страты, няўдачы, стрэс, грахі і іншыя складанасці нагадваюць аб пагрозе хаосу. Менавіта там стаіць постаць св. Яна ад Крыжа: на парозе няпэўнасці; і суцяшае нас, пераконваючы, што за гэтай мяжой не проста хаос. Цемра, якой мы баімся, пранізана Божым духам, які лётае над водамі смерці і мае ўладу ўваскрасення да жыцця.

Св. Ян знаходзіць у цемры, якую дасведчыў у сваім жыцці, цемру Езуса, і намагаецца наблізіць іншым магчымасць сустрэчы з Богам у веры і малітве, дапамагчы ўспрыняць Божую прысутнасць у штодзённым жыцці. Аднак, каб палічыць сведчанне святога годным даверу, варта зазірнуць у яго біяграфію.

Асоба св. Яна ад Крыжа пазначана спалучэннем любові і цярпення. Людзі цягнуліся да яго. Браты ў супольнасці называлі добрым, успаміналі яго зычлівасць. Але ўсё гэта не паходзіла з лагоднага настрою і спрыяльных умоў. Хуан дэ Епес Альварэс (свецкае імя) нарадзіўся ў 1542 годзе ў палітычна магутнай Іспаніі, закранутай беднасцю і дыскрымінацыяй. Убогім таго часу даводзілася жыць у жорсткіх умовах галечы і антысанітарыі. Хуан не быў ізаляваны ў вышэйшых саслоўях, рос і фарміраваўся ў гэтых адкрытых ранах грамадства.

Застаўшыся без бацькі, яны з маці мусілі пераехаць у большы горад – Медзіну дэль Кампа ў цэнтры Кастыліі, гандлёвы цэнтр, які прыцягваў не толькі людзей, але таксама хваробы. Падлеткам Хуану давялося стаць санітарам у адным з гарадскіх шпіталяў, прызначаным для паміраючых ад сіфіліса. Але не асуджэнне грэшнікаў, а спагада да церпячых жыла ў ім.

У 21 год юнак пакінуў шпіталь і ўступіў у ордэн кармэлітаў, дзе правёў чарговыя 30 гадоў. Біёграф піша, аднак, што нягледзячы на малітоўнае жыццё, пасвячэнне, навучанне ва ўніверсітэце Саламанкі, манах быў незадаволены, хацеў пакінуць ордэн кармэлітаў і стаць картузіянцам, каб весці больш суровае жыццё. У гэты перыяд ён сустракае св. Тэрэзу ад Езуса, якая ўжо пачала рэформу жаночага ордэна кармэлітак, засноўваючы супольнасці дастаткова малыя, каб быць з'яднанымі, дастаткова бедныя, каб быць свабоднымі, моцна абавязаныя шукаць Божага сяброўства праз малітву, якая з'яўляецца шляхам ацалення свету. Заснавальніцы кляштараў было 52. Аднаўленне, якое несла св. Тэрэза, суправаджалася супрацівам з боку тых, хто не жадаў далучыцца да рэформы, хоць яе падтрымліваў кароль Іспаніі і нават Рым. Манахіня была "эпіцэнтрам землятрусу", і вельмі хутка яе ўплыў стаў адчувальны ва ўсёй Іспаніі. Тэрэза заўважыла ў непрыкметным манаху такі самы дух.

Адной халоднай снежаньскай ноччу 1577 года Яна ад Крыжа выкралі для допыту. Не згадзіўшыся з абвінавачваннямі ў свой адрас, манах быў заключаны ў малой каморы амаль без святла. Сябры не змаглі даведацца, дзе яго трымалі. Адзінота, мізэрнае харчаванне, рэгулярнае бічаванне, шнары пасля якога засталіся на доўгія гады, немагчымасць змяніць адзенне, вошы, а ў дадатак і псіхалагічны здзек. Час ад часу ў прысутнасці зняволенага пачыналі размовы аб тым, што хутка выправіцца адсюль у труне, што ўсе рэформы – справа яго жыцця – праваліліся. Муры, у якіх змясцілі манаха, таксама мелі давесці яму, што ён бунтаўнік, хоць складаў абяцанне паслухмянасці. Але найбольш балючай была думка, як пазней успамінаў, што Тэрэза і яго сябры будуць лічыць, нібыта адрокся ад іх.

Гэта ўсё адбывалася адначасова: фізічнае і маральнае цярпенне, трывога, якая раз'ядала знутры, і цемра, што ахутала адносіны з Богам. Менавіта ў найцяжэйшы перыяд жыцця, калі прысутнасць Бога была так неабходнай, Ён здаваўся манаху далёкім, нават чужым; і Ян адчуваў сябе іншаземцам, які страціў усё ў незнаёмым краі. Велізарная ўнутраная сухасць і няшчасце сталі яго ўдзелам, калі быў пакінуты Богам ва ўнутранай цемры сам-насам з цемрай турэмнай камеры.

Манах пераступіў парог уласных рэсурсаў і адчуў сябе перад выбарам: Святы Дух напоўніць яго або хаос. Неверагодна, але менавіта тады ён пачаў пісаць свае найлепшыя творы. Св. Ян, якога называлі "ціхім чалавекам", бо не спяшаўся выказвацца аб сваім досведзе Бога, загаварыў, але не прозай, а вершамі аб самым інтымным перажыванні – сустрэчы душы з Богам. Займеннік "я" ў яго творах сустракаецца рэдка, і ўсё ж ён пісаў аб уласным вопыце.

Пасля 9-ці месяцаў зняволення Ян, скарыстаўшыся магчымасцю, уцёк. Альтэрнатывай, улічваючы яго крайнюю знясіленасць, была смерць. Ён атрымаў у сяброў падтрымку і неабходнае лячэнне. Ачуняўшы, працягваў засноўваць кляштары і дапамагаць іншым узрастаць у духоўным жыцці. Аднак тое, што адбывалася ў турэмнай камеры ў Таледа, было значна большым, чым канфлікт між людзьмі з рознымі поглядамі. Сам манах інтэрпрэтаваў гэта як прабыванне ў "чэраве вялікай рыбы", падобна прароку Ёне. Бог здзейсніў глыбокае перамяненне ў ім, даў ласку раздзяліць паміранне і ўваскрасенне Езуса. Там, у поўнай невядомасці сваёй няволі, Ян адчуў "таварыства і ўнутраную сілу, што ідзе поруч з душой і ўмацоўвае яе" – прысутнасць далікатную, нячутную, "цёмную", якую цяжка апісаць, але яна адна падтрымлівала ў ім жыццё. У цемры святы адкрыў Хрыстовае безумоўнае жаданне любіць менавіта Яго. "Ноч веры" – месца не толькі цярпення, але Сустрэчы.

Кожны з нас можа ўзгадаць цяжкія жыццёвыя моманты, калі адчуваў сябе здраджаным, пакрыўджаным, губляў веру, не бачыў выйсця, гараваў па блізкай асобе... Як адзначаў св. Ян Павел II, "фізічнае, маральнае і духоўнае цярпенне – хвароба, няшчасце голаду, вайны, несправядлівасці і адзіноты, страта сэнсу жыцця, уразлівая крохкасць чалавечага існавання, горкі вопыт граху, уяўная адсутнасць Бога – з'яўляюцца для веруючага чалавека ачышчальным досведам, які можа быць названы «ноччу веры»" (Апостальскі ліст "Maestro en la fe", 14).

Ноч – вельмі трапнае слова. У цемры наш зрок становіцца непрыдатным, мы рухаемся навобмацак, разгубленыя і бездапаможныя. Голас св. Яна гучыць упэўнена і ясна, калі ён сцвярджае ў "Малітве закаханай душы": "Таму цешуся, бо Ты не падвядзеш маю надзею!". Ва ўсіх балючых падзеях, якія здараюцца ў фізічным і духоўным вымярэнні, ён раіць напаўняць сэрца не горыччу, а надзеяй, "любячай увагай", якая чакае Пана, бо Ён не пакіне тых, хто шукае Яго. Ян ад Крыжа вучыць трыванню, якое супрацьстаіць страху і паніцы, заахвочвае дарэшты давяраць Богу і Яго Провіду. Кожны з нас бясконца дарагі Пану, кожны пакліканы да Яго чулым голасам любові. Калі адкрыем сваё сэрца і жыццё Богу, напоўніць яго сабою, застанецца з намі, каб праз нас ісці да іншых людзей.

*Тэрэса Клімовіч*




***Андрэй Януль,*** *алюмн 1 курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі Божай Міласэрнасці ў Пагошчы*

# З Богам магчыма ўсё!

**У жыцці кіруюся словамі са Святога Пісання: "Усё магу ў тым, хто мяне ўзмацняе" (Флп 4, 13). Калі надыходзяць цяжкія моманты, цалкам давяраюся Богу, і Ён дае сілы крочыць далей.**

### ПРА ПАКЛІКАННЕ

Аб святарстве я пачаў разважаць пасля хросту, які прыняў у 14 гадоў. Спярша не надаваў гэтым думкам сур'ёзнага значэння, меркаваў, што яны мінуць так хутка, як і з'явіліся. Аднак праз некаторы час яшчэ больш захапіўся паслугай святара. Мне моцна захацелася служыць пры алтары. Кожны раз, калі святар падчас св. Імшы падымаў Гостыю, я заўжды ўяўляў сябе на яго месцы.

Гэтыя думкі не давалі мне спакою – трэба было з кімсьці параіцца, пажадана з кампетэнтнай асобай. З такім намерам накіраваўся да пробашча нашай парафіі кс. Славаміра Самковіча. Ён распавёў пра свае семінарыйныя гады, пра сваё пакліканне. Пахваліў мяне за адважнае рашэнне, сказаў, што маю добрае жаданне і што трэба падыходзіць да гэтай справы вельмі адказна.

Пасля школы я паступіў у прафесійна-тэхнічны каледж. Мае планы на будучыню і жаданні некалькі разоў змяняліся, ажно пакуль не прыйшоў да высновы, што павінен служыць Богу як святар. Сёння дзякую Усявышняму за тое, што навучаюся ў семінарыі, што хапіла адвагі зрабіць такі няпросты выбар.

### ПРА СЕМІНАРЫЮ

Семінарыя – гэта месца, дзе клерык разважае над сваім пакліканнем. Тут пануе асаблівая атмасфера, якая спрыяе глыбокаму засяроджанню над жыццёвым шляхам. Тут таксама створаны ўсе ўмовы для плённай падрыхтоўкі да святарства. Дзякуючы гэтаму выпускнік духоўнай навучальнай установы ідзе ў жыццё гатовым да здзяйснення важнай місіі.

### ПРА МАЛІТВУ

Малітва – асаблівая і вельмі важная форма размовы з Богам, якая мае вялікую вартасць. Менавіта праз малітву мы можам атрымаць неабходныя дары і падтрымку ад Стварыцеля, які прагне атуліць кожнага бязмернай любоўю і пяшчотай. У цішыні сэрца Бог дае адказы на непакоячыя пытанні, адорвае спакоем і падказвае рашэнні ў складаных сітуацыях.

### ПРА СВЯТАРСТВА

Святарства з'яўляецца асаблівым Божым дарам. Менавіта праз святароў, праз іх паслугу, праз здзяйсненне Эўхарыстыі мы можам бачыць жывога Бога, утоенага ў Гостыі. Праз сакрамант хросту святар прыводзіць чалавека да Пана, дапамагае яму крочыць шляхам да збаўлення.

### ДУМАЮ, ШТО...

У любых абставінах жыцця трэба вучыцца бачыць не толькі дрэннае. Варта заўважаць добрыя моманты, хоць і можа здавацца, што досыць цяжка. Але праз гэта і ў гэтым мы сузіраем Бога, які заўсёды прагне для чалавека толькі дабра.

# Дарагія Чытачы!
# Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры!

*Хрыстос Уваскрос! Алелюя!*

*У святы Уваскрасення Пана з аднолёнай верай і глыбокай удзячнасцю схіляемся над таямніцай бязмежнай Божай любові. З любові да нас Езус Хрыстус, сапраўдны Бог і сапраўдны Чалавек, узяў на сябе грахі цэлага свету, каб усіх усыноўленых дзяцей Божых раз і назаўсёды з'яднаць з Айцом, багатым на ласку і міласэрнасць, а праз гэта адкрыць дарогу да вечнага жыцця.*

*Сёлетнія Велікодныя святы перажываем у асаблівай атмасферы. Як ніколі раней, адчуваем сябе членамі адной вялікай сям'і, сёння настолькі дасведчанай, прыгнечанай і сумнай у балючым сутыкненні з таямніцай цярпення і смерці. Мы бачым свет, які ўсё лепш усведамляе ўласную крохкасць, пагружаны ў вялікі страх, шакіраваны сваім бяссіллем і няўпэўнены ў заўтрашнім дні.*

*Усяму чалавецтву, якое прагне надзеі і спакою, мы, хрысціяне, абвяшчаем цудоўнае пасланне: Хрыстос уваскрос – раз і назаўсёды перамог зло, грэх і смерць. Праўда Вялікага Дня не належыць мінуламу – яна ўсё яшчэ актуальная, нястомна прамаўляе да нас, дазваляе глядзець і на ход людской гісторыі, і на наша ўласнае жыццё з новай, Божай перспектывы. Уваскрасенне Хрыста пераменяе змрок смерці ў світанак жыцця, слёзы роспачы – ва ўсмешку надзеі, страх і няўпэўненасць – у глыбокі супакой сэрца, узмоцненага ласкай.*

*У Велікодныя святы жадаю кожнаму з Вас, дарагія Браты і Сёстры, асабістай сустрэчы з уваскрослым Хрыстом. Няхай плёнам гэтай сустрэчы будзе моцная вера ў тое, што Збаўца сапраўды жывы і заўсёды побач. Няхай Яго шчодрае благаслаўленне спадарожнічае нам кожны дзень.*

***Аляксандр Кашкевіч***
*Біскуп Гродзенскі*



## Каляндар падзей

***5 красавіка***
*Нядзеля Мукі Пана (Пальмовая). Пачатак Вялікага тыдня.*
***У гэты дзень у святынях асвячаюцца вербы.***

***9 красавіка***
***ВЯЛІКІ ЧАЦВЕР.***

***10 красавіка***
***ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА.***
*Абавязковы сціслы пост.*

***11 красавіка***
***ВЯЛІКАЯ СУБОТА.***
*У святынях благаслаўляюць стравы на велікодны стол.*

***12 красавіка***
***НЯДЗЕЛЯ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА.***

***13 красавіка***
*29-ая гадавіна заснавання Гродзенскай дыяцэзіі і прызначэння кс. б-па Аляксандра Кашкевіча.*
***Молімся за Пастыра і верны люд Гродзенскай дыяцэзіі.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Красавік***
*Аб ласках, патрэбных для нашых біскупаў Аляксандра Кашкевіча і Юзафа Станеўскага, а таксама аб фізічных і духоўных сілах для іх.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## НАВІНЫ



## АКТ ПРЫСВЯЧЭННЯ БЕЛАРУСІ

Ва ўрачыстасць Звеставання Пана, у адпаведнасці з распараджэннем старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, адбылося прысвячэнне нашай краіны і яе народа Беззаганнаму Сэрцу Найсвяцейшай Панны Марыі. Урачысты акт падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне здзейсніў Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі. Іерарх даручыў Пану Богу ў небяспецы пандэміі каронавіруса праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі нашу Айчыну і ўсіх яе жыхароў.

Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч здзейсніў акт прысвячэння Беларусі Беззаганнаму Сэрцу Найсвяцейшай Панны Марыі падчас выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне, які ў гэты дзень перажываў сваю адпустовую ўрачыстасць. На малітве сабраліся святары, манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, якая шмат гадоў апекуецца святыняй, а таксама жыхары горада.

Апоўдні ўсе з'ядналіся ў малітве словамі, якім навучыў Езус Хрыстус, прамовіўшы разам "Ойча наш".

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Малітва аб спыненні пандэміі каронавіруса прайшла ў капліцы Гродзенскай ВДС. Св. Імшу за ўрачоў і тых, хто змагаецца з распаўсюджаннем эпідэміі ў свеце, цэлебраваў кс. бп Юзаф Станеўскі.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Літургічная служба алтара шчучынскай парафіі папоўнілася новымі міністрантамі і лектарамі. • 4 новыя міністранты з'явіліся ў парафіі ў Тракелях (дэканат Радунь). • Рэспубліканская мастацка-экспертная рада распрацоўвае для Гродна эскіз помніка св. Губерта, апекуна паляўнічых і леснікоў. • Члены супольнасці св. Юзафа разам памаліліся Ружанцам у гродзенскай парафіі Святога Духа. • Святары-аднакурснікі памаліліся ў гродзенскай катэдры за памерлага ў Казахстане кс. прэлата Вацлава Паплаўскага. • Біскупы Аляксандр Яшэўскі SDB і Алег Буткевіч правялі велікапосныя рэкалекцыі для вернікаў дыяцэзіі ў Іўі і ў Міхалішках (дэканат Астравец).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*



***У актуальнай сітуацыі, калі многія католікі з-за страху перад заражэннем каронавірусам не прыступаюць да сакраментальнай Камуніі або не маюць магчымасці асабіста наведваць святыню, каб прыняць удзел у Найсвяцейшай Ахвяры, можна карыстаць з духоўнай Камуніі. Што яна сабой прадстаўляе? Як правільна яе "прымаць"?***

Духоўная Камунія – гэта лучнасць чалавека з Эўхарыстычным Езусам, якая рэалізуецца праз прагненне прыняць сакраментальнай Камуніі. Адначасова такое прагненне грунтуецца на веры, ажыўленай праз любоў.

**Галоўныя элементы духоўнай Камуніі:**
1. Моцнае прагненне, якое вынікае з жывой веры;
2. Прагненне сакраманту Эўхарыстыі, якія прыносіць збаўленне;
3. Прагненне, якое вынікае з любові да Хрыста;
4. Прагненне выразнае і свядомае.

Духоўная Камунія, арыентаваная на сакраментальную Камунію, вядзе да яе і з ёю цесна злучана. Плён духоўнай Камуніі з'яўляецца, па сутнасці, тым жа, што і ў сакраментальнай Камуніі (эўхарыстычнай) – узрастанне асвячальнай ласкі, любові, чыстасці жыцця і еднасці з Хрыстом.

Ніякіх абмежаванняў для прымання духоўнай Камуніі няма: да яе могуць прыступаць усе без выключэння некалькі разоў на дзень.

*Кс. Іван Кароткін*
***паводле catholicnews.by***

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**6 красавіка 1968 г.** – кс. Генрых Герасімовіч, *проб. Градаўшчына;*
**6 красавіка 2018 г.** – а. Інакенцій Шумоўскі OFMconv, *душп. Гродна;*
**19 красавіка 1947 г.** – кс. Марцін Пузырэўскі, *проб. Адэльск.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

